# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

№ 16

двухтыднёвая часопіс
для меншых дзяцей

ОРГАН ЦК ЛКСМБ
І НАРКАМАСЬВЕТЫ

1932

Год выданьня 4





# У школу



Заціх наш
Лагер звонкі,
Шумлівы ды вясёлы.
Сягоньня зноў
Гамонкай
Напоўніліся школы.

Прышлі знаёмым
Сьледам
У школу акцябраты,
Змагацца каб за веды
І дружна
І упарта!


Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1959. 2800 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—5

# За



# ўдарную вучобу!

Дзеці! Наша лета скончылася. Адпачылі і — за вучобу!

**Вучыцца—наша галоўная задача.** Вучыцца добра, так, каб ніводная гадзіна не прапала марна. Каб вызначаныя нам заданьні былі пройдзены з посьпехам. Каб кожны добра вывучыў патрэбныя навукі, каб кожны мог зьвязваць кніжную навуку з жыцьцём.

Такую задачу паставіў перад намі Цэнтральны Камітэт партыі ў мінулым годзе. Гэтую задачу мы павінны вырашаць і сёлета, і кожны год сваёй вучобы.

Мы павінны вучыцца так, каб кожны з нас у будучым мог стаць добрым кваліфікаваным пісьменным рабочым, тэхнікам, вучоным... А такія людзі нам зараз вельмі патрэбны. Толькі пісьменныя і сьвядомыя людзі могуць быць карыснымі для вялікага сацыялістычнага будаўніцтва.

У мінулым годзе ў нашай краіне поўнасьцю ліквідавана няпісьменнасьць сярод старэйшых. Уведзена ўсеагульнае абавязковае чатырохгадовае навучаньне для дзяцей.

А з гэтага году партыя і ўлада пастанавілі **ўвесьці ўсеагульнае абавязковае 7-гадовае навучаньне.** Гэта зна-

чыць, што кожны з вас павінен будзе абавязкова скончыць 7-годку.

Так змагаемся мы за вучобу, за асьвету тут, у краіне Саветаў, дзе самі працоўныя—гаспадары.

А недалёка ад нас, у **Заходняй Беларусі**, польскія фашысты закрылі і разгрямілі ўсе беларускія школы. Там дзеці растуць няпісьменнымі.

А што робіцца ў іншых краінах?

Вось што пішуць вучні, дзеці нямецкіх рабочых.

***„Мы, дзеці рабочых, ня можам вучыцца ў школе. У нас няма ні сшыткаў, ні кніжак,—нічога. Бацькі нашы беспрацоўныя. Купіць нам патрэбныя прылады ня маюць за што. З гэтай прычыны мы адстаем у вучобе. Замест дапамогі, настаўнікі б'юць нас, абзываюць гультаямі. Мы ня хочам такой школы, дзе могуць вучыцца толькі дзеці багатых. Мы хочам мець такую школу, як у Савецкім Саюзе“.***

Дзеці праўду пішуць. Толькі ў нас ёсьць шырокая дарога да навукі кожнаму працоўнаму.

# ЧАГО НЕ ПАВІННА БЫЦЬ



*„Што нам званок? Настаўнік пачакае“...*




*Позна. Прыдзецца прапусьціць лекцыю.*



*Усе за аднаго (схаваліся), а адзін за ўсіх (адказвае).*

Наша дзяржава траціць на асьвету многа грошай, клапоціцца аб вучнях, усімі мерамі дапамагае школе.

Мы, дзеці, павінны апраўдаць гэтыя выдаткі, клопаты дзяржавы. А апраўдаем мы ўсё гэта толькі тады, **калі кожны з нас будзе добра вучыцца.**

Ніводзін патрачаны на школу дзяржавай рубель не павінен загінуць марна.

Піанэры, акцябраты! Вы павінны першымі змагацца за тое, каб кожны вучань з посьпехам скончыў школу. Змагацца супроць недахопаў, а іх у нас яшчэ многа.

**Ударніцтва, сацспаборніцтва** — вось найлепшы спосаб падняць вучобу.

Дапамагайце тым, хто горш вучыцца.

Ніводнага прагулу, спазьненьня!

Ніводнага другагодніка!

Усе павінны добра вучыцца!

Толькі ўдарнай вучобай мы выканаем пастанову ЦК партыі аб школе.

# У НАШАЙ ШКОЛЕ



*Так яны слухаюць настаўніка.*



*Ня вучань, а шкоднік.*

# ТАК БЫЛО

Нашы дзеці шчасьлівейшыя за ўсіх на сьвеце. Чаму? Бо яны радзіліся і растуць у савецкай краіне. Яны ня ведаюць праклятых старых парадкаў. Ня ведаюць старой царскай школы. Але ведаць усё гэта цікава і карысна. Чаму так? Бо тады мы лепш і ясьней убачым розьніцу паміж старым і новым.



*Настаўнік царскай школы.*

Ясьней убачым тое, што мы маем зараз, якіх посьпехаў дабіліся працоўныя нашай краіны за першыя гады сацыялістычнага будаўніцтва.

У гэтым нумары мы друкуем два апавяданьні пра старую царскую школу.

У першым апавяданьні вы прачытаеце пра гімназіста Кліма—сына рабочага. Дзеці рабочых, бедных сялян не маглі вучыцца нават у сярэдніх школах. Калі часамі і ўдавалася паступіць у школу, дык не надоўга, як гэта было і з Клімам. Вучыцца маглі толькі дзеці багатых.

У другім апавяданьні паказваецца адна лекцыя. Ужо з гэтай лекцыі відаць, чаму вучылі ў старой школе. Там прымушалі зубрыць розную чапуху — закон божы, славянскую мову, а не — дык завучваць словы, дзе пішацца ѣ („яць") заместа „е". Гэта, як прыклад.

Вы, дзеці, ня ведаеце, што такое „яць"? І вельмі добра. Для цікавасьці запытайцеся аб ім у сваіх бацькоў, у на-



*Поп. Ён быў адным з галоўных настаўнікаў старой школы.*



*Гімназіст.*

стаўніка. Няхай раскажуць, колькі яны пакутвалі з гэтым „яць". Няхай раскажуць наогул аб тым, як і чаму вучыліся яны некалі ў царскай школе.

А для чаго было патрэбна вучыць „яць"? Аб гэтым прачытаеце ў канцы апавяданьня.

І яшчэ аднаго вы ня ведаеце. Таксама вельмі добра. Гэта—старых настаўнікаў і таго, як яны вучылі, колькі выдумлівалі розных пакараньняў для бедных вучняў...

Прачытайце гэтыя апавяданьні пра старую школу і параўнайце з цяперашняй, новай савецкай вашай школай.

# КЛІМАВА ВУЧОБА

П. ЯКАЎЛЕЎ.

Клім паступіў у гімназію. Ён быў здольны хлопчык і вельмі добра вытрымаў іспыты.

Радасьці яго ня было канца-краю.

Але хіба ў сына рабочага гэтая радасьць можа быць доўгай?

Мінула колькі дзён. І вось Кліма сустрэла першая бяда.

— Ты чаму ня носіш шынель па форме? — запытаўся ў Кліма настаўнік Станіслаў Аляксеевіч.—Каб заўтра-ж прышоў у новай шынелі, а ў гэтай рыжай сьвітцы мне болей і на вочы не трапляйся.

Клім сказаў матцы:

— Прымушаюць купіць шынель...

Маці сказала бацьку:



*... Каб заўтра-ж прышоў у новай шынелі!*

— Шынель па форме справіць трэба Кліму. Як думаеш, Рыгор?

— Справіць-бы яно можна,—падумаўшы, адказаў бацька, — але тады ня будзе чым заплаціць за навучаньне.

Гаварылі, меркавалі і нарэшце парашылі купіць шынель. Дні праз два Клім прышоў у гімназію ў новай шынелі, пашытай па форме.

— Ну вот, маладзец, — пахваліў яго настаўнік.—Цяпер ты зусім стаў гімназістам. На вось перадай бацьку гэтую павестачку.

І настаўнік даў Кліму канвэрт з казённай пячаткай. У канвэрце ляжала паперка, дзе пісалася:

„Апошні дзень платы за навучаньне 10-га верасьня. Хто да гэтага часу не заплаціць, будзе выключаны з гімназіі“.

Бацька прачытаў паперку і пайшоў у гімназію прасіцца, каб адклалі на колькі дзён плату.

Інспэктар доўга бурчаў, але усё-ж згадзіўся пачакаць тыдзень.

Сяк-так сабралі бацькі патрэбныя грошы.

— Заўтра занясеш,–сказаў Кліму бацька.— Толькі ня згубі, глядзі, дзе.

Уночы бацька пабудзіў Кліма.

— Маці захварэла, — сказаў ён. — Бяжы скарэй па доктара, а я буду тут глядзець яе.

Позна ўночы прышлося Кліму бегчы ў цэнтр гораду па доктара.

Доктар, лякарствы, падвода—на ўсё гэта патрацілі шмат грошай. Апроч таго, два дні бацька ня мог пайсьці на работу — вылічылі, як за прагул.

Маці хварэла дзён дзесяць, а калі ачуняла—грошай ня было ўжо ні капейкі.

Вечарам бацька прышоў дахаты п'яны. Ён сеў у кутку і доўга сьпяваў нейкія блытаныя песьні, а потым апусьціў галаву на рукі ды стаў плакаць.

Праз два дні Клімаву шынель маці прадала на рынку, а за тыя грошы купіла бульбы.



Клім болей у гімназію не пайшоў. Ён паступіў на завод прыслужваць аднаму майстру.

## літара „яць“

Сымонка глянуў у расклад. Сёньня пяць лекцый: руская мова, царкоўна-славянская, закон божы, гімнастыка і сьпевы.

Чула Сымонкава сэрца, што сёньня яго канешне выклічуць па рускай мове. Ён адышоўся ў бок і ўсё шаптаў, ходзячы з кутка ў куток:

— Бег, беда, белый, бес; бег, беда, белый, бес; ведаць, век, венок, вера; бег, беда, белый, бес...*)

— Дзынь!

Званок.

Іван Пятровіч, настаўнік мовы, увайшоў у клясу. Прачыталі малітву і ціха паселі за парты.

Сымонка, хаваючы галаву ў плечы, асьцярожна паглядаў на настаўніка і чакаў...

— Буравей-с Сымон-с. Да дошкі-с!

Сымонка ўздыхнуў і вышаў адказваць.

— Бег, беда, белый, бес...—пачаў ён, але настаўнік перапыніў.

---

*) У гэтых словах трэба было пісаць „яць“ заместа „е“. Такіх слоў было сотні. І ўсе іх завучвалі напамяць.



— *Нічога ня ведаеш...*

— Пішы на дошцы, — сказаў ён.—Пішы: „прожил век человек“.

Сымонка глынуў сьліну (у горле было суха) і напісаў гэты сказ.

—Што? Што?— ускіпеў настаўнік. — У слове „человек“ дзе „яць“? Пасьля літары „ч“? Пасьля літары „ч“, баран ты дурны? Пасьля „ч“ пішацца „е“, а пасьля „в“ пішацца „яць“. Нічога ня ведаеш. Астанешся без абеду, а дома ў сшытку сказ гэты напішаш 50 разоў. А зараз—марш у вугал на калені!

Пасьля Сымонкі настаўнік выклікаў другога.

З тым адбылося тое-ж самае.

Ён напісаў слова „верно“ праз „е“, а трэба было праз „яць“.

І так да канца заняткаў зубрылі словы, у якіх пішацца „яць“.

Каму гэта было патрэбна?

Для чаго мільёны вучняў цэлыя вякі пакутвалі, вывучаючы гэты пракляты, нікому непатрэбны „яць“?

Адказ тут просты.

Старая школа старалася выхоўваць людзей пакорлівых, паслушных нявольнікаў.

Больш будуць зубрыць — менш будуць думаць.

А думаць дзецям беднаты не дазвалялася, бо так яны маглі дадумацца і да рэвалюцыі.

А гэта апошняе было забаронена сотнямі розных пакараньняў.



„Вугал“.

# НАСЬЦЕНГАЗЭТА

Апавяданьне Л. ЧАРНЯЎСКАЙ
Малюнкі В. ЦІХАНОВІЧА

## I

Рэдкалегія рыхтавалася да выпуску чарговага нумару насьценгазэты.

Уладзік старанна маляваў загалоўкі. Каля яго на стале: каляровыя карандашы, палоскі паперы, лінейка, чарніла— усе прылады патрэбныя для яго работы.

Ён канчае маляваць загаловак, паднімае за беражок палоску паперы, адносіць далей ад вачэй і прыглядаецца, ці добра вышла. Нішто, літары роўныя, выразныя.

З-за яго пляча прыглядаецца Наталка Касьцюк. Уладзік косіць на яе вокам—ці спадабалася ёй?

— А твой мяккі знак, Уладзік?

— Які мой мяккі знак?

— А тут вось: „сьвята ўраджаю“. Няма мяккага знаку ў „сьвяце“.

Уладзік зьбянтэжана прыглядаецца. Няма мяккага знаку... Прабуе не здаваць пазыцый.

— Зараз выпраўлю,—вінавата кажа Ўладзік. —А ты вось сьцірку скінула. Скінула, дык і падымі.

І ён старанна бярэцца выпраўляць памылку.

Марылька сьпешна дапісвае заметку ў насьценгазэту. Шэпча, перачытвае, зноў піша, зноў шэпча, нарэшце з пераможным выглядам абвяшчае:

— Гатова! Рэдкалегія, слухайце!



Рэдкалегія рыхтавалася да выпуску насьценгазэты.

Ня сходзячы з месца, яна звонка зачытала:

„УДАРНЫ КУРЭЦ

*Калі складалася наша брыгада, Васіль Рудзёнак абяцаў, што будзе найлепшым ударнікам і крыўдзіўся, чаму яго за брыгадзіра ня вызначылі. Хваліўся, што першым у брыгадзе будзе. А што-ж вышла? Хто найгорш вучыцца? Рудзёнак. Хто зрабіў найбольш прагулаў? Рудзёнак. Ён уцякае з лекцый, каб пакурыць. Ён навучае курыць другіх вучняў, нават нулявікоў. Сорам такому вучню. Ня месца яму ва ўдарнай брыгадзе!“...*

Апошнія словы Марылька выкрыкнула, а подпіс дадала ціхенькім голасам: „Вока“.

Міколка Зяновіч, які ўдзелу ў выпуску газэты ня прымаў, а пакручваўся тут дзеля цікавасьці, зараз-жа прыгразіў Марыльцы:

— Скажу Рудзёнку, што ты на яго напісала.

— Ня маеш права выкрываць, хто пісаў. Чуеш?—абурылася Наталка.

— Нічога,—сказаў Уладзік, які ўжо справіўся са сваім мяккім знакам і паглядзеў цяпер на гэтую літару нават з прыемнасьцю.—Нічога. Малы страх. Перапісвай, Марылька, а я згары малюнак дадам. Няхай пра сябе чытае і на сябе паглядае.

Міколка паслужліва паведаміў таварыша, што заўтра ў газэце зьявіцца пра яго заметка, што пісала яе Марылька, а малюнак браўся маляваць Уладзік.

Міколка пераказваў Васілю, што пра яго напісана і заглядаў яму ў твар. Цікавіўся, як акажацца сябра на гэта паведамленьне.

Але той толькі насупіўся і буркнуў:

— Ну, добра. Падумаеш, мне цікава дужа.

— Заўтра вывесяць насьценгазэту,—дакладваў Міколка.

Васіль зірнуў на яго з-пад ілба і змоўчаў. Міколка пакруціўся яшчэ трохі і пайшоў дахаты.

Хоць стараўся Васіль быць бязуважным да гэтай заметкі, намагаўся ня думаць, але думалася толькі пра яе.

Як зрабіць, каб заметка не зьявілася ў газэце? Выкрасьці? Прыгразіць Марыльцы, запужаць яе, каб забрала назад напісанае? А можа плюнуць на ўсё гэта, хай глядзяць, хай сьмяюцца, а ён, якім быў, такім застанецца.

Вышаў з хаты на двор. Шуміць лісьцем стары каштан ля плоту і скідае свае зялёныя шышкаватыя плады на зямлю. Ударыцца шышка вобземлю і вылушчыцца бліскучы, гладзенькі, буры каштанок.

Зьбіраць каштаны вялікая ўцеха для Васіля. Сёньня выбірае ён самыя большыя каштаны. Хавае ў кішэню пару неразлушчаных шышак і мармыча:

— Як уцэлю табе ў вока, будзеш тады добра бачыць...

## II

Рэдкалегія працавала добра. Раніцай газэта ўжо вісела на вызначаным ёй месцы.

Хто ў клясу ўвойдзе, найперш да газэты бяжыць. Уголас усе чытаюць: пра сьвята ўраджаю, пра свае дасягненьні, пра кантроль над гарачымі сьнеданьнямі, пра лепшыя адносіны да працы ў майстэрні, пра настаўніка маляваньня, які рознымі нягожымі словамі празывае вучняў, яшчэ пра тое, сёе, і нарэшце ў самым канцы— малюнак: стаіць хлапчучок, носік у яго кірпаценькі, ногі расставіў, двума пальцамі ў вуснах папяросу трымае, дым з яе, як з коміну. Стаіць хлапчук, курыць, а на падлозе каля яго ў непарадку сшыткі, кніжкі раскіданы.

Васіль гэтым раньнем доўга вагаўся: ісьці — ня ісьці ў школу? І надвор'е ня студзёнае, прабадзяецца дзень. Прагульшчыкам завуць, дык і будзе прагульшчыкам, а нарэшце... хіба яго дужа чапае, што там накрэмзана ў газэце. Пойдзе. Ня спужаўся!

У клясу ўвайшоў Васіль разам з настаўніцай. Пашанцавала.

На лекцыі сядзеў ён з самым нядбалым выглядам. Локаць на стол усьпёр. Галаву паклаў на рукі. Глядзеце ўсе: да яго гэта пісаньне, як гарох да сьцяны.

Другім разам настаўніца зрабіла-б яму заўвагу, а сёньня не чапае, нібы не заўважае яго. Гэта ўкалола Васіля. Шкадуе, або лічыць, што такога і чапаць ня варта.



*— Заўтра вывесяць газэту,—дакладваў Міколка.*

Зірнуў на Марыльку і яна глядзіць. Кулак ёй паказаў. Адвярнулася. Сьціснуў у руцэ каштанавую шышку. Ух, уцэлю потым... Уладзік

на яго не глядзіць. З Уладзікам лепш загрудкі ўзяцца. Міколка дапаможа, Васька. Зьбярэ хэўру.

Але, калі ў часе перапынку Міколка падскочыў да яго і запрапанаваў:—падпільнуем дзяўчат пасьля школы,—ён так штурхануў Міколу, што той адляцеў да сьцяны.

— Ну-у!—пакрыўджана крыкнуў Міколка.

А Васіль падышоў да газэты, расставіў ногі, як было намалёвана, паўзіраўся, ці прыглядаюцца да яго, тады выпаліў:

— А ну, хлопцы, дайце курнуць!

Усе зарагаталі. Васіль здаволена азіраўся. А што? Але нечы спакойны голас кінуў яму:

— Задаесься, прагульшчык?

Сказаў гэта Алесь Звончык, а з-за яго пляча Міколка кусьліва ўсьміхаецца.

Васіль быў рынуўся на іх у бой, але надышла настаўніца.

Усю лекцыю панура прасядзеў Васіль. Сэрца гарэла помстай. Перш за ўсё пастанавіў зьнішчыць ненавісную насьценгазэту. Плян прыдумаў такі: ён нібыта ўцячэ з апошніх лекцый. Сапраўды-ж ён не ўцячэ, а схаваецца дзе-небудзь, а калі нікога ня будзе, прабярэцца ў клясу і парве на шматочкі ўсю гэту пісаніну і пра дасягненьні і пра недахопы. На яго, калі падумаюць — адапрэцца: ня быў нават на апошніх лекцыях.



*У зацішным куточку прытуліўся Васіль*

III

На другім паверсе школы, у канцы цемнаватага калідору быў зацішны куточак. Стаялі там школьныя дэка-

рацыі. За імі прытуліўся Васіль. Сядзець было нязручна, нудна, цёмна. Забірала на сон. Намагаўся хоць чым пазабавіць сябе. Пачаў лічыць да тысячы. Налічыў да шасьцісот, яшчэ больш спаць захацелася. Ну, яшчэ адна




*Няхай вісіць газэта. Ня так і цяжка ўжо будзе дагнаць сваю брыгаду.*

гадзіна пакуты. Потым унізе ўвесь малодшы канцэнтр разойдзецца дахаты, тады трэба цішком прабрацца ў клясу і схавацца там за шафаю, пакуль прыбіральшчыца замкне дзьверы на ключ да вячэрняй прыборкі.

Вышлася ўсё як надумаў. Дзьверы замкнёны на ключ і ён сам-на-сам з газэтай. Можа спакойна, не хаваючыся, разглядзець яе ўсю. Можа спакойна, не хапаючыся, драць яе на самыя дробныя шматочкі, на самыя дробныя.

— Ну, пачытаем.

Пра „сьвята ўраджаю", якое хутка ўжо надойдзе, пра зьбіраньне гародніны, пра сувязь з калгасам, што шэфствуе над іхняй школай.

Што-ж, пачытаць варта. Напісана нішто, галоўнае вельмі ясна, талкова. Хто пісаў? Алесь, мусіць.

Так, пачытаць варта, асабліва, калі ніхто на цябе вачэй не казеліць. Дачытаў да настаўніка маляваньня. Лоўка працягнулі. Сапраўды той моду ўзяў... як у старой школе... усяк празаве: то парасё, то палена крывое, то абэлдус, то олух. Няхай прачытае, пачухае патыліцу, можа далікатнейшым зробіцца.

Ну вось і да сябе дачытаўся. Пагана на сэрцы. Горш за ўсё, што праўда напісана. Ударнікам быць выклікаўся, брыгадзірам. І вучыцца яму ня цяжка. Усё гэтыя дзяўчаты вінаваты з яго брыгады. Раз спазьніўся, другі — лекцыі не падрыхтаваў, а яны свае сьмешкі, жарцікі з яго строяць...

Стаіць хлапчук на малюначку, ногі расставіўшы, папяроску ў роце трымае. Уладзікава работа! Тут можна сказаць, малюнак больш гаворыць, чым тое, што напісана.

Няма ўжо злосьці. Толькі пачувае адну прыкрасьць - чаму гэтак сталася?

Няхай вісіць газэта. Ня так і цяжка яму будзе дагнаць сваю брыгаду. Праўда, гультаіў ён здорава, але націснуўшы, ды захацеўшы—дагнаць можна. І курыць, захацеўшы, можна кінуць. Асьцярожна адчыніўшы акно, апусьціўся Васіль на школьны задворак і ў задуме пацягнуўся дамоў.



# маленькія спартсмэны

Верш І. **КАГАНОЎСКАЙ.**
Малюнкі **САМАТЫЯ.**

I

Хто па вуліцы ідзе,
Ў барабаны гучна б'е?
Крочаць дзеткі сьмелыя,
Сьпінкі загарэлыя!

Тра-та-та-та,
Тра-та-та!
Барабаны заігралі;
Дзеці песьняй адказалі:

—Ветру, сонейку
Мы сьмела
Падстаўляем сваё цела.
На зялёную палянку
Мы ідзем на пагулянку.

І на сонцы сьпінкі, ножкі
Заблішчэлі ўздоўж дарожкі.
Быццам нэгрыцяткі
Нашы акцябраткі.

II

Гляньце, дзеці,
Ля дарогі
Ледзьве цягне нехта ногі
Як-бы неякі пянчук?

Дзеці! Гэта-ж наш Грышук.
Бледны ён, незагарэлы,
Бо хавае сваё цела
Ён пад вопраткай
І ў гэтрах
І ад сонца, і ад ветру...
Потны, сумны наш Грышук,
Ну, ня хлопчык,
А пянчук!

III

Але, гляньце,
Паглядзеце —
Грышука
Разьдзелі дзеці:

З ножак скінулі штаны,
Дзьве кашулі са сьпіны.
Як усе, Грышук наш голы,
Ï адразу стаў вясёлы.
У вадзе гульня з мячом,—
Ажно бурбалкі кругом!

IV

Сонца грае, сонца грэе.
Цела дзетак чырванее.
Ï на жоўценькі пясочак
Лёг дзіцячы наш гурточак;
Грэюць дзеткі
    Грудкі, сьпінкі
Ï абсохлі за хвілінку!
Зноў шарэнга у паходзе
І Грышук ў шарэнзе
    Ходзіць.

V

Барабаны заігралі,
Дзеці песьню засьпявалі:
— Каб здаровымі нам быць,
Трэба сонейка любіць.
Сонца цела узмацняе,
Хто з нас гэтага ня знае?

Мы маленькія
Спартсмэны,
Мы расьцем бадзёрай
    зьменай,
Каб маглі мы ля варштатаў
Моцнай стаць калёнай,
Быць гатовымі
Да працы
Ï да абароны!






**Нарыс Я. МАЎРА**

(*Канец*)

Ужо даўно людзі заўважылі, што ў некаторых мясцок з-пад зямлі прасочваецца нейкая пахучая вадкасьць, якая можа гарэць. Па-пэрсыдзку гэта прасочваньне завецца „Нафата“, адсюль і назва нафты.

У г. Баку ўжо сотні гадоў назад скарыстоўвалі газы, якія выходзяць з-пад зямлі. Але скарыстоўвалі для справы зусім некарыснай. Хітрыя жрацы (папы) зрабілі з гэтага „цуд“: у сьценах храму зрабілі трубы, па якіх ішоў газ і, запаліўшы яго, стварылі „сьвяты, вечны агонь“. І гэты вечны агонь шмат гадоў дзівіў сьвет і даваў добры прыбытак жрацом.

Сям-там вычэрпвалі нафту са студняў і ўжывалі для асьвятленьня. Але прамысловага значэньня нафта ня мела аж да сярэдзіны мінулага стагодзьдзя. Толькі тады, спачатку ў Амэрыцы, потым у нас на Каўказе, пачалі сьвідраваць у зямлі спэцыяльныя шчыліны—студні. З гэтых студняў вычэрпвалі нафту і ачышчалі яе на карасіну.

Як каршуны, наляцелі буржуі ў Баку, і свае і замежныя. Царская ўлада распрадала ім вялікія прасторы зямлі за 3 мільёны рублёў. Прамыслоўцы-ж мелі ад нафты прыбытку мільёнаў 500 штогод.

Перад рэвалюцыяй Бакінская прамысловасьць належала 200 гаспадаром. Кожны з іх стараўся нажыцца як мага

хутчэй і выціскаў з рабочых усе сокі, вытворчасьці не паляпшаў, а шукаў „фантаны“.

Каб знайсьці і здабыць нафту, трэба сьвідраваць вельмі глыбока, некалькі сот мэтраў. Цяпер ёсьць шчыліны на кілёмэтр глыбіні і нават болей.

Можна сабе ўявіць, якая гэта цяжкая і марудная справа! Шмат месяцаў трэба сьвідраваць такую шчыліну, ды яшчэ ня ведаеш, ці натрапіш якраз у гэтым месцы на нафту. Але затое часта трапляецца такое месца, што і вычэрпваць ня трэба. Сама нафта б'е фантанам па некалькі тысяч бочак у суткі. Вядома, кожнаму цікавей натрапіць на такі фантан, чымся цярпліва сьвідраваць і вычэрпваць.

Самае здабываньне (тартаньне) адбывалася так: рабочыя рукамі вычэрпвалі нафту чарпакамі—„жалонкамі“. Эксплёатаваліся рабочыя страшэнна. Жылі яны ў брудных бараках.

У такім стане перайшлі промыслы да рабочае ўлады.

Некалькі гадоў упартай сацыялістычнай працы—і ранейшыя гаспадары цяпер ужо не пазналі-б свае прадпрыемствы.

Растуць вышкі (пабудовы, нібы маякі, над шчылінай) не абы-як, а паводле навуковых досьледаў. Пра тартаньне і жалонку забыліся. Электрычныя насосы выпампоўваюць нафту без дапамогі чалавека. Суха і чыста навакол. За 30 кілёмэтраў прыгожы новы горад з камяніцамі, дзе жывуць рабочыя. Злучаецца ён з промысламі электрычнай чыгункай.

І дзе 200 гаспадароў здабывалі 6 мільёнаў тон нафты,—цяпер адзін гаспадар — краіна Саветаў — здабывае 12 мільёнаў тон.

На другім баку Каўказкіх гор знаходзіцца другі наш нафтавы пункт—горад Грозны. Там здабывалася нафты ў дзесяць разоў меней, як у Баку, а цяпер ён шпарка даганяе Баку.

На паўночным беразе Касьпійскага мора, ля вусьця рэчкі Эмбы, сярод пустыні, ляжыць 3-ці нафтавы пункт. Ён быў зусім занядбаны і нават мала хто ведаў аб ім. А цяпер і ён ператвараецца ў багатае сацыялістычнае прадпрыемства.



*Так здабывалі нафту раней.*

Вядома было, што на „катаржным" востраве Сахаліне таксама сустракаецца нафта, але ня было каму аб ёй дбаць. Цяпер туды вязуць машыны, абсталяваньне — і Сахалін ужо уносіць сваю долю нафты ў сацыялістычную гаспадарку.

А пра тое, што за Волгай, каля Уралу, можна здабываць нафту,—нават і ня думалі. А цяпер там (у Башкірыі) ужо даюць нафту тры шчыліны, ды дзьве далей на поўнач.

І такіх мясцовасьцяй з нафтай у нас шмат.

Сотні вучоных, рабочых, інжынэраў, тэхнікаў дасьледуюць край, сьвідруюць зямлю і знаходзяць сьляды нафты.

Значыцца, у глыбіні ёсьць нафта, трэба толькі яе знайсьці і дастаць.

Цяпер толькі Амэрыка здабывае нафты больш за нас, але яна ўжо канчае скарыстоўваць усе свае запасы, а мы толькі яшчэ пачынаем.

Першую пяцігодку наша нафтавая прамысловасьць выканала за 2 з паловай гады. Цяпер мы даганяем Амэрыку, хутка выйдзем на першае месца. Бо там здабыча ня толькі не павялічваецца, а наадварот—зьмяншаецца.

Шмат нафты трэба для украінскіх трактароў. Колькі цягнікоў, часу, працы, сродкаў трэба, каб прывезьці яе з Каўказу! Ну, што-ж,—можна абыйсьціся і бяз гэтага: пралажылі з Каўказу ў Данбас трубы — нафтаправод—і гоняць нафту бяз ніякага клопату. Таксама цячэ нафта з Эмбы, па пустыні. З Баку і Грознага цячэ ў Батум і Туапсэ. Праз некаторы час новыя тысячы кілёмэтраў труб будуць пралажаны—і пацячэ нафта сапраўды як „чорная кроў" па жылах савецкай зямлі.

А ў запасе ёсьць яшчэ новыя крыніцы нафты, так зва-

ныя сапрапэліты. Гэта—насычаны нафтай вугаль, гліна, торф і інш. З іх таксама можна выганяць нафту. Самыя вялікія запасы сапрапэлітаў пакуль што знойдзены ў Сібіры. З іх можна здабыць столькі нафты, што яе хопіць на ўсю Сібір.

І нарэшце, такія самыя сапрапэліты мы знаходзім у нашых беларускіх балотах. У другой пяцігодцы мы будзем здабываць нафту і ў БССР.




*З Баку і Грознага цячэ нафта па трубах у Батум, Данбас, Туапсэ і іншыя мясцовасьці.*

# працоўная камуна

Апавяданьне КАГАНОЎСКАЙ

Люця і Марат бегаючы па лесе, разбурылі высокую кучу шыпулек. Пакусаныя мурашкамі, яны з плачам прыбеглі дахаты. Расказваюць дзядзьку Антосю пра здарэньне. Выслухаў Антось скаргу дзяцей ды кажа:

— У мурашнік, як відаць, трапілі. Добра што не ўваліліся туды, а то мурашкі пакусалі-б вас яшчэ ня гэтак. Пойдзем паглядзім, дзеткі, што вы там натварылі.

Калі дзеці падвялі дзядзьку да разбуранага мурашніку, Антось сказаў:

— Дык гэта-ж вы разбурылі працоўную камуну. У гэтай кучы жыве арганізованаю сям'ёю некалькі тысяч мурашак. Бачыце, як яны бегаюць цяпер адна перад другою. Гэта яны папраўляюць разбураны будынак. Вы нарабілі ім шмат шкоды.

Мурашкі насілі хваёвыя шыпулькі, сухія галінкі, кавалачкі зямлі. Дзеці стаялі разам з дзядзькам і глядзелі на іх работу. Гэтым часам Антось паказаў дзецям на мурашнік, дзе віднеўся выхад. Люця і Марат убачылі, што выхад мае доўгі калідор.

— Глядзеце, віднеюцца нейкія клетачкі,— закрычаў Марат.

— Так, дзеткі, каморкі відаць, пакойчыкі. Гэта хата мурашак. Будуюць яе мурашкі разумна, так як людзі. Вось гэты мурашнік здаецца насыпанаю кучаю шыпулек,

а сапраўды ён мае шмат паверхаў, пакойчыкаў, калідораў. І ўсе гэтыя паверхі ўмацованы палачкамі, каб не абваліліся. Робіцца ўсё так, як робіць чалавек у вялікіх мураванках. Мурашкі ходзяць там свабодна, не баючыся нічога.

Шмат чаго дзіўнага і цікавага расказаў дзядзька Антось дзецям у той дзень.



* * *

Назаўтра зноў да мурашніка прышлі дзеці з дзядзькам Антосем. Быў прыгожы сонечны дзень—і па дарожцы, высыпанай сухімі шыпулькамі, снавалі ўзад і ўперад мурашкі. Адны з іх несьлі маленькія лісточкі, другія гнуліся пад цяжарам шыпулек, трэція ледзь цягалі маленечкія белыя шарыкі.

— Гэта рабочыя мурашкі, — тлумачыць дзядзька Антось.

— А што яны робяць?—не ўцярпела Люця.

— Яны заўсёды працуюць і праца паміж мурашкам строга разьмеркавана. Яны то рамантуюць сваю хатуі (от, скажам, вы ўчора разбурылі — ім трэба паправіць), то нясуць яду ў муравейнік.

— А што гэта за белыя шарыкі?

— Гэта яечкі, якія кладзе мурашка-матка. Рабочыя мурашкі разносяць гэтыя яечкі па каморках-пакойчыках. Каморак шмат і ў кожнай свая асобная работа. У адных каморках ляжаць сьвежыя яечкі. У другіх больш старэйшыя, а ў трэціх—маленькія, бязногія, сьляпыя лічынкі. З лічынак выходзяць кукалкі, якія таксама ляжаць асобна ў спэцыяльных каморках. Ва ўсіх каморках ёсьць рабочыя мурашкі. Яны даглядаюць і за яечкамі, і за кукалкамі, і за лічынкамі, як добрыя нянькі.

Ляжыць кукалка ў каморцы, грэецца. Мурашка-нянька разрывае абалонку і дапамагае выйсьці маленькай мурашцы з кукалкі. Потым корміць, даглядае „дзіцё“, пакуль яно не акрэпне.

Разсказаў дзядзька дзецям і пра карысных траўніц, што знаходзяцца ў мурашніку. Сваімі вусікамі мурашкі раздражняюць траўніцу, а яна выдзяляе сок—малако, якое зьлізваюць мурашкі.

# П А Д У М А Й



## ЗНАЙДЗЕЦЕ ГУЛЬТАЯ

Вы ня ведаеце, мусіць, Гаўрылава? Ён на заводзе ў нас працуе. Бяда з ім, ды годзе. Больш гаворкаю займаецца, як работаю. Рабочыя пачалі сьмяяцца з Гаўрылава, перасталі гаварыць з ім у час работы. Тады Гаўрылаў інача́й прыдумаў. Як толькі ўсе рабочыя ўзяліся працаваць, дык ён паціханьку вышаў, схаваўся і лёг спаць.

е, дзеці, знайсьці гультая.

## МАНАГРАМА

З „Г“ — чуем пры гаворцы.
З „Ж“ — ёсьць такое насякомае.
З „Л“ — прылада для страляньня.
З „С“ — расьце на дрэве.
У манаграме канчаткі павінны быць аднолькавыя.



ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: Л. РУСАКОВА
А. ЯКІМОВІЧ

